Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнага Савету
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 12 (113) | 12 жніўня 1931 г. | № 12 (113)



## ЗЬМЕСТ.

# Дырэктыўны ліст Народнага Камісарыяту Працы, Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі і Калгасцэнтру БССР.

## 59. Аб практычных мерапрыемствах па арганізацыі адыходніцтва з калгасаў і вярбоўкі калгасьнікаў-адыходнікаў у другім паўгодзьдзі 1931 г.

***Усім органам працы, усім калгасам, райкалгассаюзам і ўсім гаспадарчым арганізацыям БССР.***

Вялізарныя посьпехі сацыялістычнай індустрыялізацыі краіны, шпаркі тэмп калгаснага і саўгаснага будаўніцтва прывялі да поўнай ліквідацыі беспрацоўя ў СССР і патрабуюць дадаткова соцен тысяч новых рабочых. Гэта ставіць усю работу па арганізацыі працы і забясьпечаньні рабочай сілай народнай гаспадаркі ў абстаноўку, „якая цяпер зьмянілася ў корні“ (Сталін).

Стаўка на самацёк, тым больш „калі мы перамаглі тую самую нішчату, якая гнала селяніна з вёскі ў горад“ (Сталін) павінна быць рашуча адкінута і ад „палітыкі“ самацёка неабходна перайсьці да палітыкі арганізаванага набору рабочых. „Але для гэтага ёсьць толькі адзін шлях—шлях дагавораў гаспадарчых арганізацый з калгасамі і калгасьнікамі“ (з прамовы тав. Сталіна).

Гэтыя дагаворы павінны зьявіцца асноўным дакумантам, які павінен рэгуляваць узаемаадносіны гаспадарчых органаў і калгасаў у справе арганізаванага ўжываньня рабочай сілы з поўнай адказнасьцю старон за іх бясспрэчнае выкананьне.

Урад СССР у сваёй пастанове за 30|VI-1931 г. (З. З. СССР № 42) і прамова тав. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў за 23|VI-31 г. даюць зусім яскравыя паказаньні аб новых мэтадах і формах камплектаваньня народнай гаспадаркі рабочай сілай.

Аднак, ня гледзячы на пастановы НК Працы БССР, НКЗема БССР і Калгасцэнтру за 18/III-1931 г. (Бюл. СНК 1931 г. № 4) аб арганізаваным прыцягненьні рабсілы з калгасаў, гэта пастанова ня была практычна праведзена ў жыцьцё зацікаўленымі арганізацыямі, а менавіта: гаспадарчыя арганізацыі не скарысталі ўстаноўленых форм прыцягненьня рабсілы і значная частка нават не заключыла з калгасамі дагавораў, а па заключаных дагаворах няма канкрэтных узаемных абавязкаў; калгасныя арганізацыі ня ўжылі ніякіх мер, якія-б садзейнічалі адыходніцтву, а, наадварот, у некаторых выпадках перашкаджалі гэтаму; органы працы не арганізавалі сыстэматычнага нагляду за выкананьнем дадзеных дырэктыў і ня ўжылі ніякіх мер да выкананьня кантрольных лічбаў па адыходніцтву.

У мэтах практычнага ажыцьцяўленьня паказаньняў Партыі і Ураду па забясьпечаньню пасьпяховага камплектаваньня народнае гаспадаркі рабочымі кадрамі ў 2-ім паўгодзьдзі б. г. і для зьнішчэньня адзначаных ненармальнасьцяй НК Працы БССР, ВСНГ БССР і Калгасцэнтр па ўзгадненьню з ЦСПСБ прапануюць зараз-жа правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Інспэктарам працы разам з райкалгассаюзамі палежыць у дэкадны тэрмін:

а) падагуліць наяўнасьць адыходніцтва на паасобных калгасах па становішчу на 1/VIII-1931 г.;

б) высьветліць наяўнасьць лішкаў рабсілы па месяцох 3-га і 4-га кварталаў, улічваючы вызваленьне рабсілы ў сувязі з мэханізацыяй і больш поўным выкарыстаньнем маючыхся рабочых рэсурсаў, у асаблівасьці жаночай рабочай сілы.

Матарыял аб гэтым павінен быць прадстаўлен у НКП і Белкалгасцэнтр разам з высьвятленьнем момантаў, якія перашкаджалі плянавай вярбоўцы рабсілы з калгасаў не пазьней 12 жніўня г. г.

2. Улічваючы структурныя зьмены як у разьвіцьці калгаснага будаўніцтва, так і ў патрэбнасьці паасобных галін прамысловасьці ў рабсіле і неабходнасьць у сувязі з гэтым удакладніць плян патрэбнасьці і раённай вярбоўкі рабсілы, абавязаць усіх спажыўцоў масавай рабсілы (рэспубліканскія, гаспадарчыя аб'яднаньні і інш.) у дэкадны тэрмін, г. зн. не пазьней 12/VIII-1931 г. падаць у НК Працы БССР удакладненыя заяўкі на патрэбную рабсілу ў раённым разрэзе на 3 і 4 кварталы паасобку. У гэтых заяўках павінна быць паказана:

а) наяўнасьць рабсілы на 1/VII-1931 г.,

б) дадатковая патрэбнасьць,

в) крыніцы пакрыцьця (ФЗВ, будвучы, ЦІП) і вярбоўка з паказаньнем, у якія раёнах мяркуецца вярбоўка.

На падставе гэтых заявак будзе зроблена разьмеркаваньне раёнаў вярбоўкі і прымацаваньне да іх асобных гаспадарчых арганізацый, пасьля чаго раённым органам працы і райкалгассаюзам будзе паведамлена колькасьць рабочых, якая павінна быць завербавана ў даным раёне (кантрольная лічба). На гэтай аснове будзе разгорнута работа па заключэньню дагавораў паміж гаспадарчымі органамі і калгасамі.

3. Раённы орган працы, атрымаўшы кантрольную лічбу на вярбоўку, сумесна з мясцовым гаспадарчым органам і пры ўдзеле райкалгассаюзу разьмяркоўвае для кожнай гаспадарчай арганізацыі і вызначае ёй для вярбоўкі сельскія саветы і паасобныя калгасы. Пры гэтым павінна ўлічвацца колькасьць працаздольнага насельніцтва ў сельсавеце, лік калгасьнікаў, моцнасьць таго ці іншага калгасу і яго вытворчы плян.

4. Пры разьмеркаваньні пунктаў вярбоўкі, раённыя органы працы павінны адвесьці гаспадарчым органам для вярбоўкі тыя мясцовасьці, з якіх звычайна ўходзілі да іх на работу адыходнікі і імкнуцца да таго, каб у адным населеным пункце ці калгасе, па магчымасьці, вярбавала толькі адна гаспадарчая арганізацыя. Пры гэтым павінна быць зроблена ўзаемнае прымацаваньне буйнейшых спажыўцоў рабсілы і калгасаў да канца бягучага году.

5. Гаспадарчыя органы пасьля атрыманьня ад раённага органа працы паказаньня аб тым, да якіх калгасаў яны прымацованы, павінны на працягу аднае дэкады заключыць з гэтымі калгасамі дага-

воры на вылучэньне адыходнікаў і дапамогу вярбоўцы рабсілы (тыповы дагавор—гл. дадатак № 1).

Дагаворы павінны быць двухбаковым абавязкам (гл. п. п. 6 і 7)

6. Калгасы павінны прымаць на сябе як правіла наступныя абавязкі:

а) ужыць захады да лепшай арганізацыі працы ўнутры калгасу і да максымальнага вызваленьня лішкаў рабочай сілы для работы ў адыходзе;

б) вылучыць патрэбную гаспадарчаму органу колькасьць адыходнікаў і абавязкова адпусьціць іх на працу да гаспадарчага органу, з дасканалым паказаньнем колькасьці вылучаемых калгасьнікаў і тэрмін, на працягу якога яны павінны быць заняты на данай рабоце;

в) калгасы могуць прымаць на сябе замест выдзяленьня адыходнікаў падрады на выкананьне пэўнай работы сіламі калгасьнікаў, на прыклад: па вырубцы і вывазцы лесу з вызначанай дзялянкі, па абслугоўваньню пагрузачных работ на вызначанай прыстані, па распрацоўцы вызначанага вучастку балота на торп і г. д.

7. Гаспадарчыя арганізацыі абавязаны прымаць на сябе як правіла наступныя абавязкі:

а) аказаць калгасу дапамогу ў справе арганізацыі працы, праз пасылку на час у калгас сваіх работнікаў ці пры ўмове выдзяленьня калгасам большага ліку рабочых—праз утрыманьне ў калгасе за кошт гаспадарчага органа спэцыяльнага работніка па арганізацыі працы;

б) аказаць калгасу дапамогу ў складаньні вытворчага і рабочага пляну, упарадкаваньні грашова-рахўнковай работы калгасу і арганізацыі зьдзельшчыны праз пасылку ў калгас сваіх эканамістаў, плянавікоў і рахунковых работнікаў, работнікаў ТНБ і эканомікі працы і інш.;

в) за кожнага выдзеленага адыходніка даюцца калгасу спэцыяльныя сродкі на палепшаньне яго вытворчасьці па нормах. устаноўленых пастановай НК Працы СССР 17 ліпеня 1931 г. № 202 (гэта пастанова НКП БССР разаслана ўсім гаспадарчым арганізацыям, інспэктарам працы і Калгасцэнтру 24/VII г. г. за № 116);

г) арганізаваць на прадпрыемствах ці ў калгасах курсы па падрыхтоўцы кваліфікаваных кадраў з калгасьнікаў як для сябе, так і для калгасаў.

8. Апроч абавязкаў, паказаных у п. п. 6 і 7, гаспадарчыя органы і калгасы па сваёй ініцыятыве могуць уключыць у дагаворы і інш. моманты ўзаемадапамогі, якія забясьпечваюць найбольшае выдзяленьне калгасамі рабочых для камплектаваньня адыходніцкай рабсілай сталых і сэзоных галін народнай гаспадаркі: саўгасы і леспрамгасы могуць прымаць на сябе абавязкі па аказаньні дапамогі бліжэйшаму калгасу сродкамі вытворчасьці, цягавай сілай, па рамонту ў сваіх майстэрнях калгаснага сельскагаспадарчага інвэнтару; стала дзейнічаючыя прадпрыемствы могуць пасылаць у калгасы для рамонту інвэнтару рамонтныя брыгады, адпушчаць па цьвёрдых цэнах мэталялом, стружкі і г. д.; будаўнічыя арганізацыі могуць аказаць калгасам

дапамогу ў праектаваньні калгаснага будаўніцтва, тэхнічным наглядам і г. д.

9. Райкалгассаюзам прапануецца сумесна з РайЗА вылучыць у кожным раёне з агульных фондаў сельскагаспадарчых машын, спэцыяльныя фонды сельгас. машын ня менш 10 проц. для разьмеркаваньня яго паміж калгасамі, якія даюць большую колькасьць адыходніцтва. Пры гэтым ўлічваецца ня толькі абсалютная колькасьць вылучаных калгасам адыходнікаў, але і процант вылучаных да агульнага ліку працаздольных членаў калгасу. Асобныя льготы павінны давацца калгасам, якія выканалі і перавыканалі кантрольныя заданьні па вярбоўцы і дагаворы з гаспадарчымі органамі. Нормы і парадак пераважнага снабжэньня сельска-гаспадарчымі машынамі калгасаў (паводле гэтага пункту) устанаўліваюцца наступныя: за поўнае выкананьне дагавору калгас прэміруецца дэфіцытнымі машынамі на льготных умовах па 10 руб. на кожныя 100 чалавека-дзён, прапрацаваных у гаспадарчай арганізацыі, а за перавыкананьне дагавораў—дэфіцытным і машынамі бясплятна за рахунак вярбуючай арганізацыі па 10 руб. за кожныя 100 чалавека-дзён звыш дагавору.

10. Незалежна ад заключэньня дагавору з калгасам, гаспадарчыя арганізацыі, якія вярбуюць рабсілу, павінны заключыць на месцы вярбоўкі індывідуальныя ці групавыя дагаворы з калгасьнікамі з паказаньнем у іх тэрміну работы, яе характару, месца работы, забясьпечаньня жыльлём і харчамі, аплаты праезду туды і назад (пасьля сканчэньня тэрміну дагавору), сутачных і асноўных умоў працы (зарплата, расцэнкі і г. д.) у адпаведнасьці з пастановай НК Працы СССР за 30 сакавіка 1931 г. № 80 (гэта пастанова НКП БССР разаслана была ўсім мясцовым органам працы і гаспадарчым арганізацыям 5/VI-1931 г. за № 109). індывідуальны ці групавы дагавор заключаецца па форме, якая тут прыкладаецца (гл. дадатак № 2). Форма гэтага дагавору можа быць зьменена і канкрэтызавана адпаведнымі гаспадарчымі аб'яднаньнямі ў залежнасьці ад характару вытворчасьці з тым аднак, каб поўнасьцю захавана была паказаная вышэй пастанова НКП СССР.

11. Выходзячы з вялікага значэньня і тэрміновасьці правядзеньня ў жыцьцё паказаньняў Партыі і Ураду аб пераходзе на новыя мэтады прыцягненьня рабочай сілы, прапануецца ўсім гаспадарчым арганізацыям і калгасам і мясцовым органам працы правесьці гэтую работу ва ўдарным парадку, абвясьціўшы з 15-га жніўня кампанію заключэньня дагавораў гаспадарчых органаў з калгасамі.

12. Усім райпрафсаветам, райкалгассаюзам і мясцовым органам працы разгарнуць работу па папулярызацыі і шырокаму растлумачэньню ўсіх льгот, устаноўленых Урадам для адыходнікаў.

13. Усім гаспадарчым органам, якія вярбуюць рабочую сілу, прапануецца ў дэкадны тэрмін пераглядзець склад свайго вярбовачнага апарату, укамплектаваўшы яго вытрыманымі, кваліфікаванымі работнікамі, знаёмымі як з умовамі вытворчасьці, так і з умовамі раёну, у якіх праводзіцца вярбоўка рабсілы.

Адначасова прапануецца ўсім вярбовачным арганізацыям заразжа выдзяліць адказных асоб, на якіх ускладаецца вярбоўка і прыцягненьне рабочай сілы.

**Дадатак.** Тыповыя дагаворы форма № 1 і 2.

Народны Камісар Працы БССР **А. Баскін.**

За Старшыню Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР **П. Валасевіч.**

Нам. Старшыні Белкалгасцэнтру **Стрэле.**

Узгоднена з ЦСПСБ—**Кавалёў.**

1 жніўня 1931 г.
г. Менск.

**Дадатак № 1** (да п. 5 Дырэктыўнага ліста НКП, ВСНГ і Калгасцэнтру БССР за 1/VIII-1931 г.).

„Адпалітыкі самацёку...да палітыкі **арганізаванага** набору рабочых... для гэтага існуе толькі адзін шлях—шлях дагавораў гаспадарчых арганізацый з калгасамі і калгасьнікамі".

**Сталін.**

# ТЫПОВЫ ДАГАВОР

## паміж гаспадарчым органам і праўленьнем калгасу.

У мэтах забясьпечаньня пасьпяховага выкананьня народна-гаспадарчага пляну сацыялістычнага будаўніцтва і выкананьня 5-цігодкі ў 4 гады, у мэтах перанясеньня вопыту прамысловасьці па разгортваньню вышэйшых сацыялістычных форм працы ў сацыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі, забясьпечаньня шырокага і актыўнага ўдзелу калгасьнікаў у буйным разьвіцьці сацыялістычнай прамысловасьці і будаўніцтва і для выкананьня дырэктыў Партыі і Ураду аб арганізаваным наборы рабочай сілы, зьнішчэньня абязьлічкі ў стварэньні рабочых кадраў, унядрэньня гаспадарчага разрахунку і дагаворнай дысцыпліны на пачатках узаемных абавязкаў—1931 году . . . . . . . м-ца „ " дня, мы падпісаўшіяся ніжэй . . . . . . . . . . . . . (назва заводу, фабрыкі, будоўлі ці іншае гаспадарчае арганізацыі) у асобе . . . . . . . . . . . . (пасада і прозьвішча), які дзейнічае на падставе пасьведчаньня выдадзенага . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . (паказаць, кім выдадзена, калі і № . . . .), які называецца ў далейшым „Гаспадарчая арганізацыя"—з аднаго боку, і Праўленьне калгасу . . . . . . . . . . . . . (назва калгасу), у асобе . . . . . . . . . . . . . . . . (пасада і прозьвішча), які называецца ў далейшым „Калгас"—з другога боку—заключылі гэты дагавор у наступным:

1. Калгас абавязуецца ў . . . . . . тэрмін вылучыць (па разнарадцы Райкалгассаюзу і нараду райінспэктара працы) з ліку сваіх

членаў і накіраваць на работу . . . . . . . . . (назва работ) наступную колькасьць рабочай і гужавой сілы:

а) рабочых . . . . . . чал. (паказаць колькасьць асоб па паасобных прафэсыях);

б) возчыкаў з коньмі . . . . . . чал.

2. Пералічаныя ў артыкуле 1 рабочыя і гужавая сіла вылучаюцца для работ у гаспадарчай арганізацыі (паказаць назву) на тэрмін . . . . . . . мес. . . . . . . . дзён (або да . . . . . . . тэрміну).

3. Калгас абавязуецца ўжываць да ўсіх вылучаных на працу сваіх членаў і іх утрыманцаў прадугледжаныя статутам калгасу правілы і ўсе льготы, устаноўленыя Урадам для адыходнікаў.

4. Калгас абавязуецца не адклікаць вылучаных для работы калгасьнікаў да зыходу тэрміну дагавору бяз згоды гаспадарчага органу, прымаючы самыя рашучыя захады супроць самавольнага ўходу калгасьнікаў з працы.

5. У мэтах максымальнага вызваленьня лішкаў рабочай сілы для працы ў іншых галінах народнай гаспадаркі Калгас абавязуецца: усебакова ўзмацніць правядзеньне мерапрыемстваў па палепшаньню апрацоўкі глебы, максымальна скараціць працяжнасьць асноўных сельска-гаспадарчых работ (сяўба, уборка, малацьба і г. д.) праз максымальнае разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва, перавод усёй работы на зьдзельшчыну, разьдзяленьне працы, ушчыльненьне рабочага дню, максымальную мэханізацыю работ, максымальнае ўжываньне жаночай працы на ўсіх вучастках работ, вызваляючы жанчын ад хатніх работ праз арганізацыю дзіцячых ясьляў, пляцовак, сталовак і інш.

6. Гаспадарчая арганізацыя абавязуецца забясьпечыць калгасьнікам усе ўмовы працы, устаноўленыя заканадаўствам і каляктыўным дагаворам, забясьпечыць іх годным для жыльля памяшканьнем, харчаваньнем і прамтаварамі ў межах норм, устаноўленых для данага прадпрыемства рэгулюючымі органамі снабжэньня (у гэтым-жа пункце агаварыць парадак забясьпечаньня інструмантам).

7. Гаспадарчая арганізацыя абавязуецца дапамагаць калгасу ў справе арганізацыі працы, пастаноўкі вучоту працы і рабочай сілы, пераводу ўсёй работы на зьдзельшчыну, у разгортваньні вышэйшых сацыялістычных форм працы, складаньні вытворчых і рабочых плянаў, складаньні будаўнічых і рамонтных праектаў, каштарысаў і інш. Для гэтай мэты Гаспадарчая арганізацыя вылучае для часовай работы ў Калгасе на . . . . . . . тэрмін: арганізатараў працы . . . . . чал., рахунковых работнікаў . . . . чал., эканамістаў-плянавікоў . . . . чал., тэхнікаў . . . . чал. і г. д. (формы дапамогі паказаць канкрэтна ў залежнасьці ад характару і магчымасьцяў гаспадарчай арганізацыі і патрэбнасьцяў данага калгасу).

8. Гаспадарчая арганізацыя аказвае Калгасу дапамогу сродкамі вытворчасьці, рамонтам сельска-гаспадарчага інвэнтару ў сваіх майстэрнях або пасылкай рамонтных брыгад, одпускам рамонтных матарыялаў і часьцей для рамонту сельска-гаспадарчых машын, прадастаўленьнем Калгасу інвэнтару, які можа даць Гаспадарчая арганізацыя і які патрэбен для Калгасу, а таксама прымаць удзел у аргані-

зацыі культурна-бытавых установ у Калгасе (паказаць канкрэтна формы дапамогі).

9. Гаспадарчая арганізацыя абавязуецца забясьпечыць падвышэньне кваліфікацыі вылучаных калгасьнікаў нараўне з астатнімі рабочымі данай арганізацыі; апроч гэтага, для пакрыцьця далейшай патрэбнасьці ў кваліфікаванай рабочай сіле, арганізаваць на прадпрыемстве ці ў калгасе курсы па падрыхтоўцы кваліфікаваных кадраў з калгасьнікаў як для сябе, так і для калгасаў і прадастаўляць пэўную колькасьць месц ў існуючыя пры Гаспадарчай арганізацыі школы ФЗВ, будвучы і інш. навучальныя ўстановы (канкрэтна пералічыць форму падрыхтоўкі, назву курсаў ці навучальных установ, колькасьць і прафэсіі і на якіх умовах праводзіцца падрыхтоўка).

10. Гаспадарчая арганізацыя абавязуецца зрабіць усе разьлікі за працу калгасьнікаў і за цягавую сілу беспасрэдна з калгасьнікамі на месцы правядзеньня работ.

11. Гаспадарчая арганізацыя абавязуецца забясьпечыць вылучаных калгасам коняй фуражом у межах норм, якія ўстанаўліваюцца і адпускаюцца рэгулюючымі органамі, а таксама вэт. дапамогай за кошт гаспадарчай арганізацыі.

12. Гаспадарчая арганізацыя абавязуецца стварыць адпаведныя ўмовы для належнага хаваньня інвэнтару і трыманьня коняй і інструмантаў, якія належаць калгасу (паказаць, якія ўмовы і разьмер матарыяльнае адказнасьці ў выпадку страт, калі папсаваньне здарылася па віне гаспадарчай арганізацыі).

13. Гаспадарчая арганізацыя абавязуецца аплаціць кошт сельскагаспадарчага інвэнтару, якім калгас будзе прэміравацца пры перавыкананьні гэтага дагавору ў парадку. ўстаноўленым пунктам 9 Дырэктыўнага ліста НК працы, ВСНГ і Белкалгасцэнтру за 1/VIII г/г.

14. Гаспадарчая арганізацыя і Калгас бяруць на сябе абавязкі падняць на належную палітычную вышыню справу арганізаванага набору калгасьнікаў для работы ў іншых галінах народнай гаспадаркі праз правядзеньне адпаведнай культурнай і палітыка-выхаваўчай работы сярод калгасьнікаў праз усю сыстэму культурна-выхаваўчых і палітыка-асьветных установ гаспадарчай арганізацыі і калгасу.

15. Стораны нясуць матарыяльную і грамадзкую адказнасьць за невыкананьне ці частковае парушэньне гэтага дагавору ў разьмерах і формах, якія канкрэтна вызначаюцца пры заключэньні дагавору.

16. Дагавор набывае сілу пасьля яго падпісаньня поўнамоцнымі прадстаўнікамі старон без пасьледуючага яго зацьверджаньня якімі-небудзь стаячымі вышэй органамі ці асобамі.

> Увага. Гэты дагавор падлягае абавязковаму абмеркаваньню на агульным сходзе калгасьнікаў у прысутнасьці прадстаўніка сельскага савету.

17. Гаспадарчая арганізацыя абавязуецца ў працягу 5 дзён з дня падпісаньня дагавору прадставіць яго мясцоваму інспэктару працы (на тэрыторыі якога заключаны дагавор) для вучоту і прагляду.

18. Юрыдычныя адрасы старон: . . . . . . . . . . . . . . . .

Подпісы:

Увага. Калі дагавор заключаецца на выкананьне пэўных работ у парадку падраду (§ 6, п. „в“ Дырэктыўнага ліста), дык павінны быць зьменены адпаведныя пункты гэтага дагавору (1, 2, 3 і інш.).

**Дадатак № 2** (да п. 10 Дырэктыўнага ліста НК Працы, ВСНГ і Калгасцэнтру БССР за 1/VIII-1931 г.)

## ТЫПОВЫ ДАГАВОР.

### (Індывідуальны або групавы).

„ “ . . . . . . . 1931 г. . . . . . . . . .
(назва арганізацыі)

якая завецца ў далейшым . . . . . . . у асобе вярбоўшчыка . . . . . . . . (прозьвішча) і калгасьнік (ці група калгасьнікаў)—(паказаць прозьвішчы) . . . . . . . . . . . зрабілі гэты дагавор у наступным:

1. . . . . . . . . . . (гаспадарчая арганізацыя) дае работу (паказаць якую) калгасьніку (ці калгасьнікам) на тэрмін ад . . да . . . . у . . . . . . . . . . . . (паказаць дакладна месца работы).

2. . . . . . . . . . . . (гаспадарчая арганізацыя) забясьпечвае калгасьнікаў інтэрнатамі і харчамі па нормах . . . . . . . .

3. . . . . . . . . . (гаспадарчая арганізацыя) аплачвае калгасьнікам фактычны кошт праезду і правозу багажа па чыгунках (або па водным ці гужавым шляху) . . . . . . . . . . . . . .

4. Калі праезд працягваецца больш за 12 гадз. дзён . . . (гаспадарчая арганізацыя) аплачвае калгасьнікам сутачныя ў разьмеры . . . . . . . па дзень, лічачы дзень выезду і дзень прыезду на месца работы за 1 дзень.

5. Зваротны праезд да месца жыхарства аплачваецца тым калгасьнікам, якія прапрацавалі ў . . . . . . . . . . арганізацыі ўвесь тэрмін найму, абумоўлены пры вярбоўцы, а пры найме на нявызначаны тэрмін прапрацавалі ня менш . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

6. . . . . . . . . . . (гаспадарчая арганізацыя) пры вярбоўцы выдае аванс у суме . . . . руб. на . . . . чал.

7. . . . . . . . . . . (гаспадарчая арганізацыя) мае права датэрмінова скасаваць працоўны дагавор у выпадках:

а) прыбыцьця рабочых на месца работы з спазьненьнем па іх віне;

б) адмаўленьня рабочых, прыбыўшых на месца работы, прыступіць да працы на ўмовах, паказаных пры вярбоўцы.

8. Аплата працы робіцца па існуючых расцэнках, а менавіта: . . . . . . . . . . (паказаць расцэнкі).

9. Зарплата выплачваецца ў наступныя тэрміны . . . .

Подпісы:

Вярбоўшчыка: Калгасьніка (калгасьнікаў):

## Загад па Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі БССР і Народнаму Камісарыяту Працы БССР.

### 60. Пра меры аховы працы пры ўжываньні электрычнага току высокага напружаньня ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы.

Бурны рост сацыялістычнай індустрыялізацыі нашай краіны, разьвіцьцё электрыфікацыі ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы і ўжываньне электрычнага току высокага напружаньня, патрабуюць больш сур'ёзных і пільных адносін да пытаньняў тэхнікі бясьпекі як з боку кіраўнікоў прамысловасьці, так і рабочых, занятых у гэтай галіне народнае гаспадаркі.

Між тым становішча траўматызму ад электрычнага току сьведчыць аб тым, што з боку гаспадарчых арганізацый і органаў працы да гэтага часу ня было ўжыта дастатковых і неабходных рашучых забясьпечваючых мер па тэхніцы бясьпекі, а ў некаторых мясцох становішча яе засталося на ўзроўні старых электра-ўстановак з прымітыўнымі спосабамі і мэтадамі работы і эксплёатацыі.

За апошні час на прадпрыемствах БССР здарыўся шэраг цяжкіх сьмяротэльных выпадкаў ад электрычнага току.

13 сакавіка г. г. быў забіты Загадчык Дубровенскай падстанцыі Белдрэса—інжынэр Нікіцін у час пераключэньня трансфарматара, які працаваў на 6.000 вольт.

26 красавіка г. г. быў забіт токам напружаньня 220 вольт электраманцёр Віцебскай падстанцыі Белдрэса Довгаль, пры здыманьні правадоў, бо адміністрацыяй падстанцыі ня былі ўжыты захады да выслабаненьня лініі ад току.

11 ліпеня г. г. быў забіт на Віцебскай трамвайнай падстанцыі старшы дзяжурны падстанцыі электраманцёр Шляхтоў у час, калі апошні даваў тлумачэньне вучню, як павінен працаваць выпраміцель і пры гэтым дакрануўся да часьцей выпраміцеля, якія былі пад токам 600 вольт.

1 ліпеня г. г. у час працы ад недастаткова ўжытых захадаў па тэхніцы бясьпекі пасьлізнуўшыся скаціўся на голы провад, які быў пад токам, майстар заводу „Дубіцель“ у Рэчыцы т. Касьцючэнка, ад чаго быў забіт электрычным токам.

Паказаныя выпадкі сьведчаць аб зусім недастатковай увазе да пытаньняў бясьпекі ад электрычнага току і падрыхтоўцы дастаткова кваліфікаванага тэхнічнага пэрсаналу.

Між тым загад ВСНГ БССР № 119 за 22/II-1931 г. аб абавязковым навучаньні бясьпечным мэтадам работы да гэтага часу ня

выканан. Таксама беспадстаўна затрымліваецца кіраўніцтвамі прадпрыемстваў навучаньне электраманцёраў інструктарамі Дзяржаўнага цэнтральнага бюро, ня гледзячы на загад ВСНГ СССР № 317 за 1/XII-1929 г. і на распараджэньні ВСНГ і НК Працы БССР за 1931 г.

Зварочваюць на сябе ўвагу недапушчальныя адносіны з боку шэрагу прадпрыемстваў да пабудовы ўтрыманьня электрычнага абсталяваньня, напрыклад: на скурзаводзе імя Сталіна у Магілеве пры напруджаньні 380/220 вольт былі пушчаны маторы без зазямленьня; на шоўкавай фабрыцы ў Магілеве, з прычыны адсутнічаньня спэцыяльнай апаратуры, ставілася часовая без ужываньня захадаў перасьцярогі і бясьпекі.

Забясьпечаньне электраманцёраў і іншага абслугоўваючага электраўстаноўкі пэрсаналу прыладамі перасьцярогі адпаведнай якасьці і штодзённы нагляд за іх скарыстаньнем не праводзіцца.

Шэраг электрапабудоў і ўстановак робіцца з парушэньнем правіл, зацьверджаных Усесаюзным электраз'ездам (УЭЗ), што і зьявілася прычынай няшчаснага выпадку з майстрам Касьцючэнка на заводзе „Дубіцель", дзе электраправодка была праведзена вельмі нізка ад месца працы.

Улічваючы, што маючыяся недахопы і парушэньні, апроч таго што выклікаюць шмат няшчасных сьмяртэльных выпадкаў, маюць таксама свой уплыў на неэканомнае і нерацыянальнае скарыстаньне электра-энэргіі і пагражае шэрагу месц у пажарных адносінах.

У мэтах рашучай ліквідацыі паказаных вышэй абураючых зьявішч, ВСНГ і НК Працы загадваюць:

1. Белэнэрга ў дэкадны тэрмін скласьці брыгаду спэцыялістых, якой праверыць на ўсіх прадпрыеметвах, дзе ўжываецца ток высокага напружаньня, а таксама ток у 380/220 вольт, адпаведнасьць абсталяваньня і эксплёатацыі правілам УЭЗ. Да гэтай праверкі прыцягнуць органы НК Працы і пажарнай аховы на мясцох. Прапановы брыгады зьяўляюцца канчатковымі і абавязковымі для ныкананьня ў тэрміны, якія ўстанаўляюцца па згодзе з адміністрацыяй прадпрыемстваў. Пэрсанальны сьпіс асоб, вылучаных у брыгады, прыслаць у ВСНГ і НК Працы.

2. На ўсіх прадпрыемствах, якія ўжываюць ток высокага напружаньня, а таксама 380|220 вольт, вылучыць спэцыяльных асоб, адказных за тэхніку бясьпекі выключна па электрычнаму абсталяваньню.

3. Белэнэрга ўстанавіць парадак прыёмкі ў эксплёатацыю новых электрычных пабудоў у адпаведнасьці з правіламі УЭЗ.

4. Даручыць Белэнэрга ў дэкадны тэрмін вылучыць адказнага спэцыяліста за тэхніку бясьпекі па электрычнаму абсталяваньню ўсіх эксплёатуемых электрычных пабудоў, падпарадкаваўшы яму ўсіх асоб, вылучаных па тэхніцы бясьпекі на кожным прадпрыемстве паасобку. Прозьвішча яго паведаміць ВСНГ і НК Працы.

5. Пад асабістую адказнасьць дырэктароў прадпрыемстваў, электрастанцый і падстанцый не пазьней 15-га жніўня г. г. арганізаваць, паводле загаду ВСНГ № 119 за 22 сакавіка 1931 г., навучаньне электраманцёраў і інш. пэрсаналу, абслугоўваючага электрычныя ўста-

ноўкі, бясьпечным мэтадам працы, паводле палажэньня і праграмы, зацьверджанай Міжведамственнай Камісіяй па барацьбе з траўматызмам пры НК Працы за 21/IV-1931 г., разасланай усім гаспадарчым арганізацыям 4/VI-1931 г.

6. Дырэктарам прадпрыемстваў аказаць усямернае садзейнічаньне інструктарам Дзяржцэнтрбюро па навучаньню электраманцёраў у сэнсе прадстаўленьня памяшканьняў для курсаў, забясьпечаньня курсаў неабходнымі прыладамі і інш.

7. Белэнэрга ў 3-хмесячны тэрмін арганізаваць лябараторыю для пэрыядычнага іспыту перасьцярожных прыладаў, інструмантаў, якія ўжываюцца пры электрычных работах (гумавыя коўрыкі, рукавіцы, ручкі шальштангаў і г. д.). Месца арган зацыі гэтых лябараторый Белэнэрга ўзгадніць з ВСНГ і НК Працы.

8. Матарыялы па ўсіх здарыўшыхся няшчасных выпадках накіраваць пракуратуры для прыцягненьня вінаватых у гэтым асоб да судовай адказнасьці.

9. Па пытаньнях тэхнікі бясьпекі склікаць нараду з прадстаўнікоў прамысловасьці і электрапрамысловасьці БССР. Тэрмін скліканьня нарады і падрыхтоўку матарыялаў да гэтай нарады ўскласьці на Сэктар эканомікі працы ВСНГ і Сэктар Аздараўленьня Умоў працы НКП БССР.

Старшыня Вышэйшага Савету
Народнае Гаспадаркі БССР **Г. Грысевіч.**

Народны Камісар Працы БССР **А. Баскін.**

4 жніўня 1931 г.
№ па НКП—35.
№ па ВСНГ—280.

## Інструкцыя Галоўнага Кіраўніцтва шосавых і грунтавых дарог і аўтамабільнага транспарту БССР.

### 61. Пра парадак разгляду і дачу заключэньняў па праектах дарожнага будаўніцтва.

На падставе пастановы Эканамічнай Нарады БССР за 8 красавіка 1931 г. „Аб тэхнічным наглядзе за гаражным будаўніцтвам“ і правіл Цудатрансу „Аб разглядзе і зацьверджаньні праектаў гаражнага будаўніцтва“ устанаўляецца наступны парадак разгляду і дачы заключэньняў па праектах гаражнага будаўніцтва.

#### I. Агульныя палажэньні.

1. Пад гаражным будаўніцтвам у данай інструкцыі маецца на ўвазе пабудова новых і капітальнае пераабсталяваньне існуючых:
а) гаражоў (памяшканьняў для стаянкі машын);
б) памяшканьняў для абслугованьня аўтамабіля (мыцьцё, агляд, змазка і запраўка гаручым);

в) аўтарамонтных майстэрань;

г) гаражных складаў (гаручых і змазачных матарыялаў, аўтагумы, запасных частак і прыладаў).

2. Усе аб'екты гаражнага будаўніцтва ў залежнасьці ад іх умясьцімасьці і кошту падзяляюцца на тры катэгорыі:

1) Да першай катэгорыі адносяцца:

а) гаражнае будаўніцтва коштам звыш 250 тыс. рублёў або зьмяшчальнасьцю звыш 75 аўта мабіляў;

б) гаражнае будаўніцтва, праектуемае як тыповое для данага ведамства або арганізацыі.

2) Да другой катэгорыі адносяцца: гаражнае будаўніцтва каштоўнасьцю ад 30 тысяч да 250 тыс. руб. або ёмістасьцю ад 10 да 75 аўтамабіляў.

3) Да трэцяй катэгорыі адносіцца гаражнае будаўніцтва, якое па сваіх разьмерах ніжэй каштоўнасьці і разьмеру, установленных для другой катэгорыі.

3. Галоўдартранс БССР разглядвае толькі праекты гаражнага будаўніцтва першай і другой катэгорыі.

Праекты гаражнага будаўніцтва трэцяй катэгорыі абавязковаму разгляду Галоўдартрансу не падлягаюць: гэтыя праекты павінны разглядацца на вытворча-тэхнічных нарадах саміх аўтагаспадарак і зацьвярджаюцца кіраўнікамі аўтагаспадарак.

4. Для ажыцьцяўленьня гаражнага будаўніцтва будуючыя арганізацыі павінны мець: зацьверджаныя Дзяржплянам БССР тытульныя сьпіскі па аб'ектах будаўніцтва, зацьверджаныя заяўкі на дэфіцітныя будматарыялы, праекты гаражнага будаўніцтва з заключэньнем Галоўдартранса БССР, альбо з зацьверджаньнем кіраўніком аўтагаспадаркі ў залежнасьці ад катэгорыі будаўніцтва.

Увага. Складаньне тытульных сьпіскаў і заявак на будматарыялы павінны рабіцца ў парадку і ў тэрміны, устанаўленыя Дзяржплянам БССР.

5. Галоўдартранс разглядае і дае заключэньне па праектах гаражнага будаўніцтва ў адносінах устанаўленьня:

а) эканамічнай мэтазгоднасьці праектуемага будаўніцтва і яго разьмераў;

б) правільнасаці выбару месца будаўніцтва;

в) правільнасьці намечанага рэжыму аўтагаспадаркі;

г) правільнасьці выбару тыпаў і марак машын;

д) адпаведнасьці гэтым умовам запраектаваных будынкаў і пабудаваньняў;

е) правільнасьці запраектаваньня мэтадаў абслугоўваньня машын ў гаражы ці рамонту ў майстэрні.

Усе праекты на гаражнае будаўніцтва павінны паступаць у мясцовыя аддзелы Камгасу, дзе падлягаюць разгляду у адносінах: а) пляніроўкі і забудоўкі гораду ці населенага пункту б) захаваньня тэхнічных, санітарных і супроцьпажарных патрабаваньняў і грамадзкай бясьпекі, в) захоўваньня правіл і норм па будаўніцтву, устаноўленых мясцовымі абавязковымі пастановамі.

У Галоўдартранс праекты гаражнага будаўніцтва павінны паступаць ужо з заключэньнем мясцовых аддзелаў камгасу.

Увага. Захаваньне правіл і норм, устаноўленых заканадаўствам СССР і БССР, а таксама ўсіх магчымых спрашчэньняў і палегчаньняў канструкцый, скарыстаньне норм матарыялаў, захаваньне запасаў трываласьці, замена дэфіцытных матарыялаў іншымі і магчымасьць ужываньня мясцовых матарыялаў ускладаецца на праектуючыя і будуючыя арганізацыі.

## II. Парадак разгляду праектаў.

6. Па праектуемаму гаражнаму будаўніцтву першай катэгорыі да ведама Галоўдртрансу адносіцца:

а) разгляд заданьня на праектаваньне;

б) разгляд і ўзгадненьне экскізных праектаў;

в) разгляд і заключэньне на канчатковых праектах.

7. Па праектуемаму гаражнаму будаўніцтву другой катэгорыі да ведама ГДТ адносіцца:

а) разгляд заданьня на праектаваньне гаражнага будаўніцтва;

б) разгляд і заключэньне на канчатковаму праекту.

8. Па гаражнаму будаўніцтву, якое ажыцьцяўляецца па тыповых праектах, разгляду ГДТ падлягаюць толькі канчатковыя тэхнічныя праекты з змяшчальнасьцю больш 10 аўтамабіляў.

9. У заданьні на праектаваньне павінна быць паказана:

а) месца будаўніцтва і даныя папярэдніх тэхніка-эканамічных вышуканьняў (грунт, наяўнасьць будаўнічых і асабліва мясцовых матарыялаў, наяўнасьць рабсілы, транспартныя умовы);

б) род і назначэньне пабудовы;

в) тып і колькасьць аўтамабіляў;

г) рэжым эксплёатацыі ў аўтагаспадарцы;

д) арганізацыйная форма і структра аўтамабільнай гаспадаркі;

е) умовы абслугоўваньня машын пры гаражы (мыцьцё, агляд, змазка, запраўка) і рамонту, наяўнасьць у данай аўтагаспадарцы цэнтральных рамотных майстэрань;

ж) умовы забясьпечаньня бэнзінам і неаходнасьць праектыроўкі бэнзіназахавальняў пры гаражы.

У аднсінах аўтарамонтнай майстэрні павінна быць паказана яе гадавая вытворчасьць, наяўнасьць і ўмовы забясьпечаньня запаснымі часткамі, наяўнасьць іншых аўтарамонтных прадпрыемстваў у данным месцы.

10. Эскізны праект складаецца на падставе зацьверджаных заданьняў і павінен мець: пляны, разрэзы і фасады пабудовы з падстаўнымі разьмерамі і паказаньнем габарытаў, тэхналёгічнага і іншага абсталяваньня у колькасьці дастатковай для меркаваньня аб праекце цалкам і агульнай яго канструкцыйнай схэме.

Эскізныя праекты грамадзкіх пабудаваньняў (пляны, разрэзы і фасады) складаюцца ў маштабе 1.200, абсталяваньне ў маштабе, дастаковым для яскравага і поўнага выяўленьня заданьня.

11. Да эскізнага праекту прыкладаюцца:

а) плян зямельнага вучастка гаражнага будаўніцтва ў маштабе ад 1:500 да 1:1000 з паказаньнем яго разьмеру (генэральны плян мясцовасьці ў маштабе 1:5000 да 1:10000).

б) каляндарны плян будаўніцтва;

в) папярэдні каштарыс па ўзбуйненых вымерніках;

г) тлумачальная запіска з тэхнічным апісаньнем і эканамічным абаснаваньнем праекту.

12. У тлумачальнай запісцы (п. 11) павінны быць высьветлены наступныя пытаньні:

а) падстава выбару месца пабудовы, агульнае яго апісаньне і характар грунту;

б) разьмяшчэньне кожнага аб'екту будаўніцтва на вучастку;

в) пляіроўка асобных заданьняў і пабудоў;

г) падстава галоўных разьмераў пабудоў і адпаведнасьці іх установленым нормам;

д) тэхніка-эканамічная аснова выбару тыпаў, асноўных матарыялаў і канструкцый пабудоў;

е) пытаньні тэхналёгічнага характару;

ж) падстава прынятага ў праекце абсталяваньня;

з) санітарна-тэхнічныя патрабваньні;

і) пытаньні аховы працы;

к) патрабаваньні пажарнай аховы.

13. Канчатковы тэхнічны праект складаецца на падставе эскізнага праекту з вучотам заключэньня Галоўдартрансу.

Калі эскізны праект не складзен, то канчатковы праект састаўляецца на падставе заданьня.

Пляны канчатковага праекту складаюцца: пляны і разрэзы галоўных пабудоў у маштабе 1:100, астатніх пабудоў у маштабе 1:200.

14. Да канчатковага праекту прыкладаецца:

а) падрабязны разрахунак тэхналёгічных працэсаў;

б) апісаньне абсталяваньня з разрахункам і абаснаваньнем яго колькасьці;

в) тэхнічнае апісаньне канструкцый і ўжываемых матарыялаў;

г) разрахунак асноўных канструкцый;

д) тлумачальная запіска, састаўленая як паказана для эскізнага праекту;

е) вытворчы каштарыс, абасновалы ведамственнымі нормамі або раённымі расьценкамі;

ж) вытворчы фінансавы плян будаўніцтва і плян забясьпечаньня будаўніцтва будаўнічымі матарыяламі, рабочай сілай, з паказаньнем тэрмінаў атрыманьня абсталяваньня.

### III. Парадак і тэрмін дачы заключэньня па праектах.

15. Тэрмін разгляду Галоўдартрансам заданьняў на праектаваньне і самых праектаў устанаўляецца: а) для заданьняў—7 дзён, б) для эскізных і канчатковых праектаў—10 дзён, лічачы з моманту прадстаўленьня ўсіх неабходных матарыялаў.

16. Калі праектуючай арганізацыяй прадстаўлены ня ўсе матарыялы паводле данай інструкцыі, то разгляд праектаў Галоўдартрансам можа вытварацца па згодзе з праектуючай арганізацыяй у залежнасьці ад ступені важнасьці непрадстаўленых матарыялаў, але ўсе недасланыя матарыялы павінны быць прадстаўлены не пазьней, чым за 3 дні да сканчэньня 7- ці 10-дзённых тэрмінаў.

17. Пры неадпаведнасьці прадстаўленага праекту ўстаноўленым у гэтай інструкцыі правілам, наяўнасьці адступленьня ад існуючых правіл і норм Галоўдартранс адмаўляе ад дачы заключэньня па гэтых праектах.

18. У выпадку неабходнасьці ўнясеньня ў прадстаўленыя праекты зьмен дапаўненьняў, апошнія разглядаюцца Галоўдартрансам у 5-ці дзённы тэрмін з моманту прадстаўленьня патрэбных матарыялаў.

Пры неабходнасьці ўнясеньня ў праект асноўных зьмен, апошнія пасьля пераапрацоўкі разглядаюцца тым-жа парадкам, як і прадстаўленыя ў першы раз.

19. Тыповыя праекты, маючыя рэспубліканскае або ўсесаюзнае значэньне, разглядаюцца Галоўдартрансам і з заключэньнем апошняга накіроўваюцца ў Цудартранс.

Заключэньне Галоўдартранса па праектах можа быць абскарджана ў Цудартранс, які разглядае даныя праекты ў 10-дзённы тэрмін.

Начальнік Галоўдартрансу БССР **Яцкевіч.**

Кіраўнік Аўтасэктару **Чарнышоў.**

## Абежнік Галоўнага Кіраўніцтва Камунальнай Гаспадаркі пры СНК БССР.

### 62. Пра ўмовы эксплёатацыі ручных хэмічных агнетушыцеляў.

*Гарадзкім аддзелам і інспэкцыям камунальнай гаспадаркі і начальнікам пажарнай аховы гарадоў.*

Абсьледваньне пажарнай аховы і маючыяся даныя сьведчаць аб тым, што за ручнымі хэмічнымі агнетушыцелямі ў працэсе іх эксплёатацыі няма належнага догляду, у выніку чаго маюць месца выпадкі няўдалага ўжываньня агнетушыцеляў, адказу у рабоце і нават няшчасныя выпадкі з асобамі, якія прыводзяць іх у дзеяньне.

Разам з гэтым адзначаюцца выпадкі няумелага карыстаньня агнетушыцелямі і дачаснай замены яшчэ годных агнетушыцеляў новымі.

Дрэнны догляд за хэмічнымі агнетушыцелямі ў працэсе іх эксплёатацыі акрамя таго выклікае дачасны іх выхад са строю.

Між тым вострая дэфіцытнасьць матарыялаў для вырабу агнетушыцеляў вымушае дзяржпрамысловасьць скараціць выраб іх.

Такое становішча яшчэ з большай настойлівасьцю вымагае неабходнасьць максымальна беражлівых адносін да эксплёатацыі ручных

хэмічных агнетушыцеляў у мэтах максымальнага падоўжаньня тэрміну іх службы.

Улічваючы вялікую ролю ручных хэмічных агнетушыцеляў у справе змаганьня з пажарамі і маючы на ўвазе, што належная пастаноўка эксплёатацыі хэмічных агнетушыцеляў можа зьмякчыць дэфіцытнасьць у снабжэньні імі, Галоўнае Кіраўніцтва Камунальнай Гаспадаркі пры СНК БССР прапануе:

1. Узмоцніць нагляд за ўтрыманьне хэмічных агнетушыцеляў і інструктаж адказных за іх утрыманьне асоб у адпаведнасьці з далучанымі да гэтага „Правіламі эксплёатацыі ручных хэмічных агнетушыцеляў", зацьверджанымі ГККГ 20|VI-1931 г.

2. Прапрацаваць пытаньне аб арганізацыі ў горадзе станцыі пазарадцы, іспыту і рамонту агнетушыцеляў на ўмовах гаспадарчага разрахунку.

Такая станцыя павінна быць арганізавана пры прафпажаркамандзе у адпаведнасьці з § 36 Палажэньня пра прафпажаркаманды, альбо пры гарадзкой дабраахвотнай пажарнай арганізацыі. У першую чаргу перазарадачныя станцыі арганізаваць пры Менскай, Віцебскай і Гомельскай пажарных камандах.

3. Пры пажарна-тэхнічных аглядах і кантрольных праверках прапанаваць набыцьцё агнетушыцеляў толькі ў сапраўдна патрэбнай колькасьці для аказаньня першай пажарнай дапамогі, прыняўшы захады да выяўленьня і максымальнага скарыстаньня ўсіх маючыхся агнетушыцеляў на прадпрыемствах і ва ўстановах.

4. Дадаваемыя да гэтага Правілы распаўсюджыць на ўсіх прадпрыемствах, ва ўстановах і гаспадарках, дзе ўжываюцца ручныя хэмічныя агнетушыцелі, для кіраваньня і выкананьня.

5. Аб непаразуменьнях і цяжкасьцях, якія сустрэнуцца ў справе арганізацыі перазарадачнай майстэрні і аб патрэбнай дапамозе наведаміце Галоўкамгасу.

Начальнік Галоўнага Кіраўніцтва Камунальнай Гаспадаркі пры СНК БССР **Аксючыц.**

Начальнік Пажарнай Аховы **Берасьневіч.**

1 ліпеня 1931 г.
№ 20.

**Дадатак.**

ЗАЦЬВЯРДЖАЮ.
Начальнік Галоўнага Кіраўніцтва Камунальнай Гаспадаркі пры СНК БССР
Аксючыц.
20/VI-1931 г.

Узгоднена з НК Працы БССР (прат. № 67 за 12/VI-1931 г.)

## Правілы эксплёатацыі і нагляду за ўтрыманьнем ручных хэмічных агнетушыцеляў на тэрыторыі БССР.

1. Ручныя хэмічныя агентушыцелі зьяўляюцца сродкам агнетушэньня толькі ў пачатку ўзьнікненьня пажару і не павінны разглядацца як моцны сродак пажаратушэньня, забясьпечваючы ліквідацыю буйных пажараў.

2. Для аховы ад пажараў дапушчаецца ўжываць і павінны набывацца агнетушыцелі выключна тых сыстэм і фірм, якія ўхвалены адным з цэнтральных органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду.

3. Для пажарнай аховы памяшканьняў, дзе апрацоўваюцца, хаваюцца альбо знаходзяцца ў якасьці абсталяваньня розныя цьвёрдыя гаручыя рэчы і матарыялы, а таксама калі разам з гэтымі рэчамі маюцца ў нязначнай колькасьці гаручыя вадкасьці і хэмічныя матарыялы, павінны ўжывацца вадкапенныя агнетушыцелі „Багатыр" № 1 Трэмаса).

4. Для пажарнай аховы памяшканьняў, дзе апрацоўваюцца, вырабляюцца, хаваюцца альбо ўжываюцца гаручыя вадкасьці, лёгказагараючыяся матарыялы і хэмічныя прадукты, павінны ўжывацца густапенныя агнетушыцелі („Багатыр" № 3 Трэмаса).

5. Для пажарнай аховы закрытых памяшканьняў, дзе маюцца электрычныя правады высокага напружаньня, альбо іншыя электратэхнічныя ўстаноўкі, а таксама у памяшканьнях, дзе хаваюцца каштоўныя дакуманты, якія могуць быць папсаваны вадой альбо пенай, павінны ўжывацца сухія парашковыя агнетушыцелі (тыпа „Тайфун").

6. Нормы патрэбнай колькасьці агнетушыцеляў ў розных памяшканьнях устанаўляюцца адпаведнымі правіламі пажарнай аховы.

7. Усе прадпрыемствы, установы і гаспадаркі, дзе ўжываюцца ў якасьці супроцьпажарнага абсталяваньня ручныя хэмічныя агнетушыцелі, павінны вылучыць спэцыяльную асобу, якая адказвае за ўтрыманьне агнетушыцеляў і пастаноўку іх вучоту ў адпаведнасьці з гэтымі правіламі і якая павінна быць знаёмай з канструкцыяй маючыхся ў данай гаспадарцы агнетушыцеляў і са спосабам іх зарадкі і ўжываньня для тушэньня пажараў.

Там, дзе ёсьць загадчык пажарнай аховы, гэтыя абявязкі ўскладаюцца на апошняга

8. Усім агнетушыцелям, якія знаходзяцца ў эксплёатацыі, кожнае прадпрыемства, ўстанова і гаспадарка павінны весьці дакладны падлік паводле наступнага парадку:

а) кожны агнетушыцель павінен мець свой чарговы нумар па данай гаспадарцы, які павінен быць паказан на самым агнетушыцелі;

б) на кожным агнетушыцелі павінен быць паказан тэрмін яго апошняй зарадкі;

в) завесьці спэцыяльную кнігу, у якой рэгулярна адзначаць:

1) нумар агнетушыцеля—фабрычны і па данай гаспадарцы; 2) якой сыстэмы (вадкапенны, густапенны, сухі), якой фірмы; 3) час набыцьця; 4) час першай зарадкі; 5) час апошняй зарадкі і характар зараду (летні ці зімні); 6) час паўгадавых і гадавых аглядаў, паверак і іспытаў. У кнігу заносяцца таксама адзнакі дзяржаўнага пажарнага нагляду.

9. Кожны агнетушыцель павінен заўсёды быць ў заражаным становішчы. Зарадка агнетушыцеляў павінна рабіцца на наступных умовах:

а) заражаць і перазаражаць агнетушыцелі неабходна толькі тымі зарадамі, якія спэцыяльна для іх прызначаны;

б) зарадка ўтвараецца адпаведна з тымі правіламі, якія надрукованы на ўпакоўцы кожнага зараду;

в) пасьля скарыстаньня агнетушыцель павінень быць зараз-жа прамыт і ачышчан і пасьля гэтага безадкладна заражан;

г) кожны заражаны агнетушыцель павінен быць апячатан альбо заплямбіраван, каб немагчыма было ўмысна альбо няўмысна прывесьці яго ў дзеяньне без патрэбы альбо вынуць зарад.

10. Разьмяшчэньне агнетушыцеляў павінна рабіцца наступным парадкам:

а) заражаныя агнетушыцелі павінны быць падвешаны на надзейным прыстасаваньні, якое дае магчымасьць хутка і проста зьняць яго для пажаратушэньня;

б) месцы для агнетушыцеляў павінны вызначацца з такім разьлікам, каб яны былі добра заметны, лёгка даступны, па магчымасьці каля ўваходаў у абараняемае памяшканьне;

в) да агнетушыцеляў павінен быць заўсёды вольны доступ, які не павінен нічым заграмаджацца;

г) агнетушыцелі павінны падвешвацца на такой вышыні, каб сярэдняга росту чалавек мог лёгка і хутка зьняць яго ў момант пажару;

д) агнетушыцелі, напоўненыя вадкасьцю, павінны падвешвацца і заўсёды быць абавязкова ў простастаўным становішчы;

е) у грамадзкіх мясцох каля агнетушыцеляў павінны быць вывешаны плякаты, у якіх тлумачыцца, як карыстацца агнетушыцелем у выпадку пажара;

ж) агнетушыцелі не павінны падвешвацца паблізу ад прыладаў апалу і інш. прыладаў, якія зьяўляюцца крыніцаю цяпла, а таксама ў такіх мясцох, дзе яны маглі-б абаграваццa сонцам.

11. Для захаваньня агнетушыцеляў ад дачаснага папсуцьця не радзей аднаго разу ў дэкаду, у залежнасьці ад наяўнасьці шкодных умоў (пылу і г. д.) павінен рабіцца знадворны агляд агнетушыцеляў прычым неабходна:

а) прачысьціць дакладна спрыскі агнетушыцеляў, якія даюць вадкую альбо пенную струмень;

б) выцерці насуха корпусы агнетушыцеляў анучкаю і ачысьціць іх ад усялякіх налётаў;

в) змазаць маслам арматуру агнетушыцеляў нават тады, калі яны нікеліяваныя.

Калі агнетушыцель павешан на адкрытым паветры, над ім неабходна зрабіць казырок.

Агнетушыцелі прызначаныя для неапальваемых памяшканьняў, павінны заражацца зімовымі зарадамі альбо перад наступленьнем халадоў перазаражацца такімі зарадамі.

12. Для кантролю за гатоўнасьцю і спраўнасьцю агнетушыцеляў і каб зьбегнуць няшчасных выпадкаў пры карыстаньні імі, патрэбна:

а) пры чарговых аглядах зварочваць увагу на становішча плёмбіроўкі альбо апячаткі і ў выпадку іх папсуцьця безакладна праверыць наяўнасьць і становішча зараду. Калі апошні будзе знойдзен нездавальняючым, агнетушыцель павінен быць зараз-жа перазаражан;

б) адзін раз ў паўгода ня менш 2 проц. усіх агнетушыцеляў, якія знаходзяцца ў эксплёатацыі ў даным прадпрыемстве альбо ва ўстанове, кожнай фірмы і ва ўсякім выпадку ня менш аднаго агнетушыцеля, калі іх ёсьць ад 10 да 50 штук, павінны быць узяты на выбарку для пробы ў мэтах праверкі станавішча зарадаў і дабраякаснасьці работы агнетушыцеляў, прычым агнетушыцелі бяруцца з розных цэхаў;

в) адзін раз у год павінен рабіцца агульны знадворны і ўнутраны агляд ўсіх агнетушыцеляў для праверкі становішча і спраўнасьці і адначасова ўтварацца перазарадка ўсіх агнетушыцеляў.

Пры перазарадцы павінны быць скарыстаны старыя часьці зарадаў, калі яны не папсаваліся;

г) праз два гады пасьля пачатку эксплёатацыі партыі агнетушыцеляў ня менш 10 проц. гэтых агнетушыцеляў разам з унутраным аглядам і перазарадкай падлягаюць іспыту гідраўлічным ціскам. Пры гэтым для далейшага скарыстаньня павінны быць пакінуты толькі тыя агнетушыцелі, якія вытрымаюць ціск у паўтары разы больш таго, што разьвіваецца зарадам пры закрытым спрыску, і ва ўсякім выпадку ня менш як на 5 атмасфэр больш разьвіваемага зарадам ціску, калі апошні пры закрытым спрыску ніжэй 10 атмасфэр.

Увага 1. Унутраны ціск, які разьвіваецца зарадам пры зачыненым спрыску агнетушыцеля, ўстанаўляецца пры набыцьці агнетушыцеляў і зарадаў праз адпаведны іспыт.

Увага 2. Калі ў спажыўцоў агнетушыцеляў няма патрэбных для іспыту прыладаў, яны павінны дагаварыцца з адпаведнымі арганізацыямі, якія маюць магчымасьць правесьці гэты іспыт.

д) праз тры гады пасьля пачатку эксплёатацыі пэўнай партыі агнетушыцеляў паказанаму ў літ. „е“ іспыту падлягаюць усе 100 проц. агнетушыцеляў данага тэрміну службы. У далейшым гэты іспыт павінен рабіцца кожны год;

е) калі сярод пробных агнетушыцеляў будуць такія, што не адпавядаюць нормам іспыту, то павінен рабіцца гідраўлічны іспыт усіх агнетушыцеляў данай фірмы адпаведнага тэрміну службы;

ж) агнетушыцелі, якія не адпавядаюць іспыту, павінны быць із'яты;

з) недахопы і дэфэкты, якія будуць заўважаны пры кантрольных іспытах, могуць і павінны быць папраўлены, прычым пасьля рамонту агнетушыцелі павінны зноў іспытвацца на моцнасьць.

Іспыт гідраўлічным ціскам, які прадугледжан гэтымі правіламі, павінен утварацца ў сабраным відзе з арматурай.

13. Для кантролю за спраўнасьцьцю, гатоўнасьцю і забясьпечанасьцю сухіх агнетушыцеляў тыпу „Татал“, „Тайфун“ і „Тытан“ неабходна:

а) ня менш аднаго разу ў месяц зважыць балён з вуглекіслатай для праверкі, ці няма ўцечкі газу і для прыняцьця адпаведных захадаў;

б) кожныя паўгода правяраць становішча парашку, адкрыўшы крышку парашковага балёну, каб праверыць, ці няма камкаваньня або зацьвярджэньня парашку.

14. Ажыцьцяўленьне работ па догляду і кантролю за агнетушыцелямі ўскладаецца:

а) у прадпрыемствах і ўстановах, якія абслугоўваюцца прафэсійнымі ці дабравольнымі пажарнымі арганізацыямі (каманды, дружыны, караулы)—на гэтыя арганізацыі. Наём іншых асоб альбо карыстаньне паслугамі спэцыяльных арганізацый за плату не дапушчаецца;

б) у прадпрыемствах і ўстановах, дзе ёсьць толькі загадчык пажарнай аховы, зарадка і перазарадка агнетушыцеляў павінна адбывацца пад кіраўніцтвам вылучанай для гэтага адміністрацыяй рабсілай.

15. Спэцыяльныя майстэрні па догляду, зарадцы і перазарадцы агнетушыцеляў павінны знаходзіцца на гаспадарчым разрахунку пры гарадзкіх прафэсійных альбо дабравольных арганізацыях пад наглядам і кантролем дзяржаўнага нагляду, прычым плата за адпаведныя работы павінна быць мінімальнай і ня можа быць спэцыяльнаю крыніцаю прыбыткаў.

16. Нагляд за выкананьнем гэтых правіл ускладаецца на начальнікаў пажарнай аховы гарадоў і падпарадкаваны ім камсклад пажарных каманд, на пажарных інспэктароў і інструктароў.

Начальнік Пажарнай Аховы Галоўнага Кіраўніцтва
Камунальнай Гаспадаркі пры СНК БССР **Берасьневіч.**



Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭС БССР. Галоўлітбел 294№. Зак. 460—5300 экз.

## Ад Народнага Камісарыяту Працы БССР.

## ДА ВЕДАМА ЎСІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ І ЎСТАНОЎ БССР.

1. НК Працы БССР прапануе ўсім прадпрыемствам і ўстановам БССР

**ЗАРАЗ-ЖА ПРЫСТУПІЦЬ ДА СКЛАДАНЬНЯ ЗАЯВАК**

**НА СПЭЦЫЯЛЬНУЮ І ВЫТВОРЧУЮ ВОПРАТКУ**

на IV-ты квартал 1931 г. і на 1932 год.

2. Заяўкі складаюцца і прадстаўляюцца ў вышэйстаячыя органы абавязкова ў парадку, па формах і ў тэрміны, якія ўстаноўлены пастановай НК Працы СССР за 4/VII-г. г. № 178.

Увага. Гэта пастанова разаслана НКП БССР усім рэспубліканскім аб'яднаньням і ўстановам, ад якіх стаячыя ніжэй органы павінны атрымаць усе даведкі і матарыялы па пытаньню складаньня і прадстаўленьня заявак.

3. НК Працы папярэджвае, што прадпрыемствы і ўстановы своечасова не прадставіўшыя ў належным парадку заявак на спэцвопратку і вытворчую вопратку, ня будуць уключаны ў плян снабжэньня і іх патрэба можа быць задаволена толькі ў межах магчымых астач. Незалежна ад гэтага, прадстаўнікі адміністрацыі, вінаватыя ў несваечасовым прадстаўленьні альбо няправільным складаньні заявак, будуць прыцягнуты да адказнасьці ва ўстаноўленым парадку.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**